# Прадмова

Катынь — адзін з змрочных знакаў XX стагоддзя, масавае забойства, за якім працягнуўся глыбокі і трывалы след. Але расстрэл прыкладна 4300 польскіх афіцэраў і падафіцэраў, збольшага рэзервістаў з вышэйшаю адукацыяй, і некалькіх дзясяткаў высокапастаўленых чыноўнікаў, учынены чэкістамі ўвесну 1940 года, быў значна большым, чым проста ваенным злачынствам. У назве невялічкай вёскі на захадзе Расіі ўвасобілася спроба Крамля пад кіраўніцтвам Сталіна выкараніць ці не ўсю эліту польскага грамадства, каб палегчыць сабе ўсталяванне савецкай таталітарнай сістэмы на тэрыторыі Польшчы. Злачынны загад быў выкананы не толькі ў Катыні, але і ў іншых месцах, дзе былі знішчаныя агулам калі 25 тысяч польскіх афіцэраў, чыноўнікаў і інтэлігентаў. Калі сёння ў Польшчы кажуць “Катынскае злачынства”, то маюць на ўвазе і ахвяр з іншых масавых пахаванняў, вядома пра якія стала толькі праз паўстагоддзя, бо вёска на захад ад Смаленска проста аказалася першым месцам, дзе праўда выйшла на свет. Таму пра іх таксама ідзе гаворка ў гэтай кнізе.

А яшчэ Катынь ёсць сімвалам хлусні як стрыжнявога элемента створанай Леніным і Сталіным сістэмы, што ў дачыненні да гэтых падзей перагарнула дагары нагамі ўсе катэгорыі маралі: тым, хто казаў пра віну Саветаў, грaзіў пераслед за паклёп, пакаранні, а ў найгоршым варыянце — і ліквідацыя. Не ў апошнюю чаргу акурат з-за Катыні так званы сацыялізм, які навязвала Масква, так і не змог умацавацца ў Польшчы. Так што значнасць Катыні не абмяжоўваецца багатаю на канфлікты гісторыяй польска-расійскіх адносінаў, гэта яшчэ і ўвасобленае імкненне да праўды насуперак хлусні, да свабоды насуперак прыгнёту, да культуры і цывілізацыі насуперак грубаму гвалту і пагрозе смерці.

Змаганне за “праўду пра Катынь” стала адным з непахісных прынцыпаў польскага дысідэнцкага і дэмакратычнага руху, з якога паўстаў прафсаюз “Салідарнасць”. Гэтае змаганне набыло і сакральнае вымярэнне: Катынь стала месцам, дзе абсалютным злом было знішчана дабро — краса нацыі. А канчаткова гэтае злачынства і памяць пра яго пачало ўспрымацца ў катэгорыях надзвычайнага, калі ў 2010 годзе самалёт прэзідэнта Польшчы разбіўся пад Смаленскам акурат па дарозе на мемарыяльныя ўрачыстасці, прысвечаныя 70-годдзю катынскай трагедыі.

Сярод тых, хто спрабуе дазнацца яе матываў, існуюць дзве супрацьлеглыя пазіцыі: у той час як у Польшчы забойствы ў Катыні лічаць праяваю генацыду, частка заходнееўрапейскіх і паўночнаамерыканскіх гісторыкаў трактуюць іх як класавую барацьбу. Але няцяжка прывесці довады супраць такіх адназначных класіфікацый. Так, з аднаго боку, на загад Сталіна ўглыб Савецкага Саюза былі дэпартаваныя дзясяткі тысяч палякаў — дробных сялян і простых рабочых, то бо

выхадцаў з “класаў”, што паводле самой марксісцкай тэорыі мусілі стаць паноўнымі ў новым грамадстве. З іншага боку, Сталін пакінуў жывымі шмат каго з прадстаўнікоў польскай эліты, якія трапілі ў рукі савецкіх улад. “Правадыру народаў” былі патрэбныя памагатыя ў стварэнні цалкам залежнага ад яго і асабіста абавязанага яму новага кіроўнага пласта. Прыкладамі могуць служыць фанатычная сталіністка Ванда Васілеўская, партыйны лідар Баляслаў Берут, які па-лёкайску прагінаўся перад Масквой, а на радзіме бязлітасна ступаў па галовах, таксама адзін з “забойцаў за пісьмовым сталом”, ды генерал-апартуніст Зыгмунт Берлінг. Усе трое адыгралі сваю ролю ў гісторыі хлусні пра Катынь і не ў апошнюю чаргу менавіта таму сталі ненавіснымі фігурамі ў вачах польскага грамадства з уласцівай яму развітаю гістарычнаю свядомасцю.

Пра тое, наколькі важнае месца ў мысленні Сталіна займалі этнічныя і нацыянальныя чыннікі, сведчаць шэраг ягоных выказванняў, але перш за ўсё ягоныя ўчынкі. Абвясціўшы палякаў і рускіх людзьмі “адной крыві”, а менавіта славянскай, ён, сам будучы грузінам, падтрымліваў ідэалогію панславізму. Рускіх Сталін назваў “найбольш выбітнаю нацыяй з усіх нацый, што ўваходзяць у склад Савецкага Саюза”, — словы, у якіх гучыць водгалас ідэі “Трэцяга Рыма”, сфармуляванай Рускай праваслаўнай царквой.

Звяртаючыся да прадстаўнікоў урада Польшчы ў выгнанні, Сталін выхваляўся, што “вынішчыць” нібыта прыязных Германіі ўкраінцаў, і сапраўды нямала зрабіў, каб выканаць гэтае абяцанне, прынамсі ў дачыненні да іхнай культурнай спадчыны. Ён высунуў свае прэтэнзіі на права валадарыць над украінскімі насельнікамі тагачаснай Усходняй Польшчы, якія да вайны мелі польскае грамадзянства, жылі ў краі, які ніколі не належаў да Расійскай імперыі, і нізавошта не хацелі далучацца да Савецкага Саюза, бо ведалі пра галадамор, арганізаваны на загад Сталіна ва Украінскай ССР. У шэрагу пазнейшых наступстваў ягонай жорсткай палітыкі ў дачыненні Украіны стаіць і сённяшні крывавы канфлікт паміж Масквой і Кіевам.

Кіруючыся традыцыяй Расійскай імперыі, Сталін і габрэяў лічыў асобнаю “нацыянальнаю меншасцю”. Апошнія хвалі масавых чыстак пры ягоным жыцці, кампанія супраць бязродных касмапалітаў і пераслед удзельнікаў “змовы лекараў”, былі скіраваныя найперш супраць савецкай габрэйскай інтэлігенцыі, а значыць, зноў жа мелі культурна-этнічную матывацыю. Ён таксама загадаў дэпартаваць цэлыя этнасы, прыкладам, паволжскіх немцаў, чачэнцаў і крымскіх татар, і тут заклаў міну, што выбухнула праз два пакаленні. Не давяраючы іншым нацыям, Сталін прызначаў рускіх на ключавыя пасады ва ўсіх савецкіх рэспубліках і дзяржавах — сатэлітах СССР. Гэтак міністрам абароны ў Варшаве стаў савецкі маршал Канстанцін Ракасоўскі — цалкам наўмысны знак пагарды да палякаў.

У сваіх тэарэтычных працах Сталін апраўдваў гвалт як сродак развязання палітычных праблем спасылкамі на вучэнне Карла Маркса;

гэтак жа рабіў ужо і правадыр рэвалюцыі Ленін. Сталін ды іншыя чальцы Палітбюро, якія зацвердзілі сваімі подпісамі пастанову аб расстрэлах у Катыні, мыслілі ў катэгорыях “свой — чужы” і зыходзілі з тэорый змовы ў адпаведнасці з лозунгам Леніна “Хто каго?” Ці кіраваліся яны ў сваіх дзеяннях — апроч імкнення захаваць уласныя ўладныя пазіцыі — яшчэ і нейкім грамадскім ідэалам ленінскага кшталту, сярод гісторыкаў адзінага меркавання няма. Якімі былі іхныя матывы: паталагічная прага забіваць ці бязмежная вынаходлівасць у дасягненні крымінальных мэтаў, хімера усёмагутнасці ці халодны разлік? І тут спрэчкам няма канца. На сёння лічыцца даведзеным, што Сталіна з часам усё больш апаноўвала паранаідальная недаверлівасць, а наркам унутраных спраў Берыя быў сэксуальным маньякам. Даведзена таксама, што яны ды іхныя супольнікі з кіраўніцтва апарату партыі і “спецслужбаў” лічылі сваім правам вырашаць, жыць ці памерці іхным сапраўдным, патэнцыйным ды ўяўным ворагам. І што яны, відавочна, былі ўпэўненыя: захады, якія яны робяць у выпадку Катыні, таксама рэч неабходная.

Хоць і ў не настолькі пачварнай форме, але тое ж рабілі і наступнікі Сталіна ад Хрушчова да Андропава. Яны таксама меркавалі, што маюць права прадпісваць грамадзянам сваёй краіны лад мыслення і жыцця і адпраўляць непаслухмяных у турмы альбо псіхіятрычныя клінікі, цалкам усведамляючы, што гэта можа азначаць іхную смерць. Апарат спецыяльных службаў па-ранейшаму не падлягаў аніякаму грамадскаму кантролю і быў інструментам тэрору, толькі цяпер значна больш мяккага, куды менш масавага і з большаю імавернасцю прадказальнага.

Але калі Ленін адкрыта прапаведаваў “чырвоны тэрор”, калі партыйная прэса падчас грамадзянскай вайны і ў першыя гады па захопе ўлады бальшавікамі, не хаваючыся, разгортвала кампаніі за вынішчэнне капіталістаў, прыхільнікаў царызму ці святароў, то таталітарны рэжым Сталіна прыбраўся ў строі праўнай дзяржавы: тут былі канстытуцыя, выбары, юрыдычныя працэдуры, міжнародныя дамовы — шмат прыкмет дэмакратыі. Выдаткі на маскаванне і ўвядзенне ў зман, на захаванне сакрэтнасці і прапаганду, нібыта паводле Оруэла, дасягалі надзвычайных маштабаў, у тым ліку і бадай якраз-такі ў выпадку Катыні.

Нават апошні савецкі лідар Міхаіл Гарбачоў са сваімі дарэмнымі спробамі мадэрнізаваць таталітарную імперыю доўгі час трымаўся гэтай хлусні, хоць і ведаў нямала на гэты конт. І толькі ўжо страціўшы кантроль над падзеямі, ён прызнаў прынамсі частку праўды. Але гэта адбылося занадта позна, каб утрымаць палякаў у складзе Усходняга блока. Гэтак у выпадку Гарбачова спраўдзілася выказванне, прыпісанае яму, але, відаць, сфармуляванае адным з ягоных перакладчыкаў: “Жыццё карае тых, хто спазняецца”. Катынь выявілася мінай, чый гадзіннік быў настроены на доўгую затрымку. Трагізм долі няўдалага рэфарматара Гарбачова палягае сярод іншага і ў тым, што ягоная

палітыка прыадчыніла шлюзы, праз якія рынула шырокая плынь пераадолення мінулага, што знесла ўрэшце і яго самога, бо бязмежная маса інфармацыі пра злачынствы, учыненыя камуністычнай партыяй, разбурыла ўсю легітымацыйную аснову яе панавання.

Гэтая кніга напісана на падставе ўсіх сведчанняў відавочцаў, збораў дакументаў і аналітычных прац, прысвечаных лёсу польскіх ваеннапалонных. Большасць з крыніц выйшла ў свет у Польшчы, але значная частка і ў Расіі. Расійскія выданні паказваюць, з аднаго боку, цвёрдую арыентацыю на высвятленне ісціны сярод часткі цэха расійскіх гісторыкаў, з іншага — тыя праблемы, з якімі яны пры гэтым усё часцей сутыкаюцца. Рэч у тым, што палітычная эліта ў Маскве зноў дэманструе сваю няздольнасць, а разам з тым і неахвоту разбірацца ў непрыемным цяжары мінулага ані ў інтарэсах добрасуседскіх стасункаў, ані дзеля здароўя ўласнага грамадства.

У дачыненні да Катыні Крэмль пад кіраўніцтвам Уладзіміра Пуціна спрабуе сканструяваць расійска-польскую "супольнасць ахвяраў": у масавых пахаваннях у тым урочышчы, маўляў, ляжыць куды больш расстраляных за сталінскім часам савецкіх грамадзян, чым польскіх афіцэраў. У Польшчы ж такія заявы Пуціна ўспрымаюцца тым часам не як крок да прымірэння, а як спроба Расіі — правапераемніцы Савецкага Саюза — ухіліцца ад адказнасці. Польскія каментатары, праводзячы паралелі з тым, як Германія абыходзіцца з віной, што вынікае з падзей Другой сусветнай вайны, кажуць: гэтак немцы маглі б скардзіцца, што ў спісе ахвяр вайны, складзеным паводле нацыянальнасцяў, яны займаюць другое месца па колькасці людскіх страт.

У расійскіх школьных падручніках пішуць пра Катынь гэтак жа мала, як і пра савецкі тэрор на анексаваных тэрыторыях і ў акупаваных краінах. Наадварот, у адрас палякаў, прыбалтаў, заходніх украінцаў ды іншых народаў з колішняга савецкага блока з Масквы нярэдка гучыць папрок у няўдзячнасці, бо Чырвоная армія, маўляў, сплаціла крывавую даніну за іхнае вызваленне ад "гітлераўскага ярма". А вось той факт, што чырвонаармейцы таксама паводзілі сябе як брутальныя акупанты, што ў паваенныя гады савецкія спецыяльныя службы пашырылі ці не на ўсю Усходнюю Еўропу рэжым сталінскага тэрору з дэпартацыямі і незлічонымі палітычнымі забойствамі, у сённяшняй Расіі амаль выцеснены са свядомасці. З пункту гледжання палякаў, становішча выглядае яшчэ горшым: Пуцін збіраецца ўвесці на заканаўчым узроўні адказнасць за знявагу "гонару Чырвонай арміі", што, бадай, моцна адаб'ецца на даследаваннях па найноўшай гісторыі.

У прысвечаных гісторыі дадатках, якія маюць усе буйныя польскія газеты і часопісы, любяць праводзіць пэўныя паралелі паміж часамі катынскай трагедыі ды сучаснасцю: яшчэ Сталін абгрунтоўваў анексію тагачаснай Усходняй Польшчы абаронай меншасцяў, на ягоны загад праціўнікі захопніцкай палітыкі СССР былі ахрышчаны фашыстамі — прыкладам, польскі эміграцыйны ўрад, што марна дамагаўся расследавання катынскай справы.

Гэтая кніга таксама закранае пазіцыю заходніх удзельнікаў антыгітлераўскай кааліцыі што да праблемы Катыні, і размова не пра другарадную акалічнасць: яна ўплывала на стаўленне да Сталіна прэм’ер-міністра Вялікабрытаніі Чэрчыля і прэзідэнта ЗША Рузвельта. У апошнія гады грамадскасць атрымала адкрыты доступ да адпаведнага расследавання Кангрэса ЗША аб’ёмам некалькі тысяч старонак, багата дакументаў па тэме размясціў у Інтэрнэце і “Форын Офіс”, брытанскае міністэрства замежных спраў. Выяўленне немцамі могільнікаў у Катыні ўвесну 1943 года, калі, нягледзячы на Сталінград, зыход вайны здаваўся яшчэ далёка не вырашаным, вымусіла Вялікабрытанію як дзяржаву-заступніцу польскага эміграцыйнага ўрада і Злучаныя Штаты заняць выразную пазіцыю, бо кіраўніцтва Польшчы абвінавацiла ў гэтым злачынстве Савецкі Саюз. Такім чынам, разгарэўся канфлікт паміж двума хаўруснікамі заходніх удзельнікаў антыгітлераўскай кааліцыі.

Як Чэрчыль, так і Рузвельт зрабілі выбар на карысць “рэальнай палітыкі”, не жадаючы ні ў якім разе ставіць пад пагрозу саму антыгітлераўскую кааліцыю. Яны праігнаравалі пазіцыю польскага ўрада ў выгнанні, а значыць, пакінулі Польшчу з праблемаю самнасам. У калектыўную памяць палякаў гэты ўчынак увайшоў як праява цынізму і амаральнасці, што папярэднічала яшчэ большай здрадзе ў Ялце, калі заходнія дзяржавы яшчэ да заканчэння вайны ўхвалілі будучае пашырэнне ўлады Сталіна на Усходнюю Еўропу.

Наіўныя і легкаверныя, Рузвельт і ягоныя галоўныя дарадцы былі абсалютна перакананыя ў шчырасці Сталіна (дзядзькі Джо, як яго называлі ў ЗША). Яны ігнаравалі ці нават аспрэчвалі любыя звесткі, што не пасавалі да іхнага вобразу Сталіна. З гэтай прычыны іхныя падначаленыя проста перадавалі ў архіў данясенні экспертаў з доказамі віны СССР у катынскім злачынстве, часта папярэдне пазначыўшы грыфам “сакрэтна”. Да такіх недрукаваных дакументаў належаць шматлікія аэрафотаздымкі Катынскага лесу, зробленыя вермахтам восенню 1943 года, ужо пасля таго як Чырвоная армія выгнала адтуль немцаў. У рукі амерыканцам гэтыя архіўныя дакументы трапілі напрыканцы вайны. На вокладцы нямецкага выдання гэтай кнігі змешчаны схематычны план, які дазваляе лакалізаваць паасобныя пранумараваныя аэрафотаздымкі на карце ваколіц Катыні Генеральнага штабу. Фатаграфіі адлюстравалі маштабныя земляныя работы: на думку гісторыкаў, гэтак месцы пахаванняў “афармлялі” належным чынам, каб забяспечыць следчую камісію ўяўнымі сведчаннямі віны немцаў. Паколькі выкрыццё гэтых махінацый, што кідала б цень на СССР, супярэчылі інтарэсам Белага Дома, увесь збор быў аднесены да катэгорыі канфідэнцыйнай інфармацыі, а сам схематычны план пазначаны адразу адзінаццаццю штампамі “confidential” (“для службовага карыстання”). Гісторыкі атрымалі магчымасць пабачыць гэтыя здымкі толькі некалькі гадоў назад.

У адрозненне ад амерыканцаў Чэрчыль хоць і не меў ілюзій што да характару і мэтаў савецкага рэжыму, але ён і ягоныя спецыялісты

па Усходняй Еўропе не наважваліся даць адназначную ацэнку падзеям у Катыні. Іх, у прыватнасці, бянтэжыла тое, што “катынская кампанія”, з дапамогаю якой сумнавядомы міністр прапаганды нацысцкай Германіі Гёбельс спрабаваў убіць клін паміж саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі, грунтавалася збольшага на справаздачах двух судовых медыкаў, чыя рэпутацыя таксама выклікала сумненні: адзін быў штандартэнфюрэрам войскаў СС, другі — старшынёю нацысцкага прафсаюзу медыцынскіх работнікаў.

Гэтыя аргументы пачынае ізноў ужываць посткамуністычная гістарыяграфія ў сучаснай Расіі. Да таго ж яны карыстаюцца ўсё большай папулярнасцю: публікацыі сталінскіх пастаноў аб забойствах абвяшчаюцца “гёбельсаўскай фальсіфікацыяй”. Так што пакуль надзеі на тое, што высвятленне абставін катынскай трагедыі паспрыяе перадоленню глыбокай псіхалагічнай прорвы, што раздзяліла польскае і расійскае грамадствы, не апраўдаліся.

Сёння ў Польшчы, як і ў іншых былых краінах Усходняга блока, рэжым Сталіна і ягоных сатрапаў без аніякіх ваганняў ставяць на адну дошку з германскім нацыянал-сацыялізмам. Падзеі ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германія — дыскусія наконт тэорыі таталітарызму, “спрэчка гісторыкаў”*, дэбаты аб “Чорнай кнізе камунізму” і выстаўкі пра злачынствы вермахта, на якой першапачаткова фотадакументы аб савецкім тэроры ва Усходняй Польшчы дэманстраваліся з няправільнымі подпісамі — выклікалі ў назіральнікаў на Вісле хутчэй нездаўменне. Польскае грамадства ў поўнай меры спазнала на практыцы тэрор, узведзены абодвума рэжымамі ў ранг дзяржаўнай палітыкі, і патрэбу ў яго тэарэтычным асэнсаванні адчувае вельмі мала. Пры гэтым палякі добра ўсведамляюць адрозненні паміж першым і другім: колькасць ахвяр германскай акупацыі была ў разы большай, але барацьба з акупантамі, як лічыцца, з’яднала нацыю, у той час як панаванне СССР раскалола і часткова карумпавала грамадства.

У гэтых гарачых дэбатах, якія вяліся ў ФРГ, можна пабачыць адну з галоўных прычын таго, што ў апошнія дзесяцігоддзі нямецкія гісторыкі пакінулі тэму Катыні далёка ўбаку. Некалі папулярная тэма стала не надта пажаданай, бо той, хто займаецца Катынню, нібыта спрыяе рэвізіянісцкаму перагляду гісторыі Другой сусветнай вайны. У мінулым гэта сапраўды было так, і ў першыя два паваенныя дзесяцігоддзі многія артыкулы, прысвечаныя Катыні, можна было трактаваць як апраўданне германскай агрэсіі супраць Савецкага Саюза. Іхныя аўтары спасылаліся на варварскае абыходжанне Сталіна не толькі з уласным, але і з суседнімі народамі, так што, маўляў, трэба было бараніць Заходнюю Еўропу ад бальшавікоў. Але гэтая хваля публікацый сышла на нішто, калі пасля працэсаў па Аўшвіцы ў сярэдзіне 1960-х гадоў у Заходняй Германіі рас-

* “Спрэчка гісторыкаў” (“Der Historikerstreit”) — серыя дэбатаў з удзелам прафесійных навукоўцаў і палітыкаў у другой палове 1980-х г. у Нямеччыне наконт характару палітыкі памяці ў дачыненні да нацысцкай Германіі і Халакосту. — **Рэд.**

пачалася шырокая дыскусія пра віну немцаў. Увагу заходнегерманскай грамадскасці ўсё часцей звярталі на сябе паведамленні пра германскую палітыку выпаленай зямлі, расправы з цывільным насельніцтвам, лёс савецкіх ваеннапалонных.

Насамрэч апісанні катынскага расстрэлу і яго наступстваў ніякім чынам не могуць служыць сродкам зарэтушаваць жудасць вайны на знішчэнне, якую Германія вяла на ўсходзе Еўропы. Хутчэй наадварот: Катынь не можа прымусіць забыць пра злачынствы нацыянал-сацыялістаў. Так казаў Рудольф-Крыстаф фон Герсдарф — афіцэр генеральнага штаба групы армій "Цэнтр", што быў дыслакаваны ў Смаленскай вобласці, які кіраваў эксгумацыяй целаў ахвяр у Катыні, але пры гэтым акурат у той жа час супольна з таварышам па службе обер-лейтэнантам Фабіянам фон Шлабрэндарфам удзельнічаў у падрыхтоўцы дзвюх спроб забіць Гітлера бомбай. Ёсць даволі пераканаўчыя прыкметы таго, што ім абодвум належала вырашальная роля ў зрыве савецкага плана: у рамках Нюрнбергскага працэса ўскласці віну за Катынь на немцаў. Калі б тая задума здзейснілася, то можна было б казаць пра трыумф "катынскай хлусні". Відавочна, што да такога канца заставалася недалёка. У гэтай кнізе ўпершыню паказана роля згаданых выбітных удзельнікаў Супраціву ў змаганні за праўду пра Катынь.

***

За 24 гады працы карэспандэнтам на Вісле, на Дняпры і Маскверацэ я зноў і зноў вяртаўся да тэмы расследавання і асэнсоўвання катынскай трагедыі. Я размаўляў з прэлатам Стэфанам Нядзелякам, які яшчэ ў перыяд Польскай Народнай Рэспублікі заснаваў падпольную суполку сваякоў ахвяр Катыні. Крыху пазней яго забілі, як можна меркаваць, супрацоўнікі спецслужб ПНР ("Urzędu Bezpieczeństwa"). Я быў у складзе дэлегацыі журналістаў, якая ў лістападзе 1989 года, праз тыдзень пасля падзення Берлінскага мура, у начную пару суправаджала кіраўніка польскага ўрада Тадэвуша Мазавецкага, паважанага інтэлектуала з "Салідарнасці", у занесены снегам Катынскі лес. Сцюжа стаяла такая, што падчас памінальнай імшы на вольным паветры ахвярнае віно з вадою замерзла ў келіху. Але польскі святар аказаўся падрыхтаваным і плёхнуў з пляшачкі гарэлкі.

У Маскве я сустракаўся з супрацоўнікамі пракуратуры і гісторыкамі. Мае пошукі служылі таксама высвятленню абставін сямейнай гісторыі: у афіцыйным спісе ахвяр значыцца стрыечны дзед маёй жонкі Эвы, сям'я якой родам з былога польскага ваяводскага горада Тарнопаля, сённяшняга ўкраінскага Цярнопаля. Таму мы ўдзельнічалі ў сустрэчах і канферэнцыях суполкі сваякоў ахвяр. Сярод загінулых у авіякатастрофе пад Смаленскам былі некалькі нашых знаёмых з гэтага кола, якім я абавязаны шматлікімі звесткамі. Іхнае памяці таксама прысвячаецца гэтая кніга.